Whiteruthenian News Paper "The Fatherland" Authorized by EUCOM Hq. Civil Affairs Division 27. July 1949, Nr.UNDP 225. Circulation 3500 copies. Administration: (13b) Rosenheim, Pionier-Kaserne, Whiteruthenian, DP Camp. Responsible Publisher: Wladimir Bortnik. Printed by Georg Jakob, München 8, Pütrichstraße 3a.

# БАЦЬКАЎШЧЫНА

WHITERUTHENIAN NEWS PAPER "THE FATHERLAND"

Цана 30 н. фэн., для заграніцы — 50 н. ф.

№ 2 (62) | 25 САКАВІКА, 1950 г. | Год выданьня 4.

# 1918 - 25 САКАВіКА - 1950

## Што год - бліжэй да мэты

Трыццаць два гады таму, 25 сакавіка 1918 г., Рада Беларускае Народнае Рэспублікі ў сваёй Трэцяй Устаўной Грамаце абвесьціла поўную незалежнасьць Беларусі. „**Цяпер мы, Рада Беларускае Народнае Рэспублікі,** — пісала ў гэным гістарычным дакумэньце — **сьцідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнае залежнасьці, якое гвалтам накінулі расейскія цары на наш вольны й незалежны край. Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнай і вольнай дзяржавай.**" Гэтымі словамі тады была падведзеная падрахавальная рыса над усёй папярэдняй мінуўшчынай нашага краю і адначасна станоўка вызначался гістарычна-канечнае наступнае й далейшае разьвіцьцё яго. А за гэтымі словамі стаяла воля самога народу. Бо Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, свабодна й дэмакратычна абраная на Першым Усебеларускім Кангрэсе 18—30 сьнежня 1917 г., каля дзьвюх тысячаў дэлэгатаў якога паходзілі таксама з вольных і дэмакратычных выбараў, праведзеных сярод усіх частак, груапў цэлага народу, тым самым прамаўляла голасам гэтага народу. І гэты голас быў учуты і ўшанаваны тады далёка ў сьвеце, дарма што сьвет гэны сам быў яшчэ схоплены сутаргамі першай у гісторыі сусьветнай вайны. Як сьветчаць архіўныя дакумэнты, каля пятнаццацёх гаспадарстваў прызнала было незалежнасьць Беларускае Народнае Рэспублікі. І гэта былі ня толькі так званыя „малыя" ці „Новыя" дзяржавы, што самі сталіся незалежнымі бадай адначасна з нашай БНР (як Чэхія, Польшча, Фінляндыя, Летува, Лацьвія, Эстонія, Грузія, Украіна), але й »вялікія" старыя традыцыйныя валадарствы, такія як сама Ангельшчына, Францыя, Задзіночныя Штаты Амэрыкі, Нямеччына, Аўстрыя, Турэччына. Да таго-ж яны ў бальшыні сваёй прызнавалі незалежную БНР ня толькі »дэ-факто", але й »дэ-юрэ".

Гэткія былі першыя ўпэўненыя крокі новага жыцьця нашага краю й народу. І хоць абставіны усеагульнае стомленасьці сусьветнай вайной не далі тады магчымасьці да трывалага замацаваньня гэтых крокаў, а пароджаныя гэнымі абставінамі цёмныя сілы, жыруючы на тэй стомленасьці, ізноў залілі наш край — не далося й ім спыніць далейшага разьвіцьця, мусілі й яны шукаць для яго формаў, у якіх яно хоць-бы сабе й толькі фармальна, але ўсё-ж гістарычна працягвалася й нат паступала наперад. Так, самі Маскоўскія бальшавікі, злыя духі гэных цёмных сілаў, ужо на пачатку 1919 г. мусілі пацьвердзіць ідэю незалежнасьці нашага краю, надаючы творанай на ягоным прасторы сваёй Беларускай Савецкай Рэспубліцы фармальную годнасьць незалежнага гаспадарства. І тое змаганьне, якое мы мусілі весьці ўвесь час, каб утрымаць гэтую годнасьць толькі фармальнай, вынішчаючы цэлыя міліёны людзей хоць-бы толькі падазраваных у намерах ці магчымасьцях прычыніцца да пэратварэньня небясьпечнай фармальнасьці ў фактычную рэальнасьць — толькі яшчэ мацней нацьвярджае гістарычную канечнасьць і няўмірушчасьць народнай волі да стварэньня Незалежнага Беларускага Валадарства. Дык кажны крок такога змаганьня, якімі-б балючымі ахвярамі ён не здабываўся, якім-бы трыумфам не здаваўся ён засьлепленаму крывёй ворагу — на самой рэчы, у гістарычнай пэрспэктывае можна разглядаць толькі як крок наперад па шляху да тэй мэты, якая ўпяршыню была выразна назначаная Радай Беларускай Народнай Рэспублікі ў ейным Вялікім Акце 25 сакавіка 1918 г.

Гады ішлі, і гісторыя, руку якое злосьнікі ўвесь час стараліся скіраваць на затрыманьне далейшага поступу нашага народу ды, здавалася, мелі ў гэтым такія вялікія ўдачы — на самой рэчы толькі падштурхвала далей наперад рух нашай народнай ідэі. Тыя самыя бальшавікі, што адразу-ж па першай сусьветнай вайне мусілі ўсё-ткі пацьвердзіць прынцып незалежнасьці Беларусі, напрыканцы нядаўнай другой сусьветнай вайны былі змушацыяў. Гэтым самым Незалежная Беларусь заняла нарэшце сваё месца ў сьвеце сувэрэнных ных на далейшы і ўжо зусім блізкі да завяршальнага крок. Яны мусілі ўвесьці наш край, як зусім незалежную фармальна дзяржаўную адзінку, у сусьветную арганізацыю сувэрэнных народаў — у Арганізацыю Задзіночаных Нацыяў як сталы й раўнапраўны сябра. Той факт, што на дадзеным адрэзку часу яна прадстаўленая там у існасьці чужым ём ува ўсіх дачыненьнях, навет біялёгічна, бальшавіцкім савецкім урадам — ня мае тут ніякага прынцыповага й канчальнага значаньня: урады й навет дзяржаўныя сыстэмы народаў ніколі ня былі й ня будуць рэчай зусім нязьменнай, а пагатоў — урады й сыстэмы, накідваныя і ўтрымваныя тэрорам і гвалтам. Сусьветнае-ж прызнаньне народу як сувэрэннага між сувэрэнных застанецца назаўсёды, пакуль гэтыя народы будуць на сьвеце.

А тымчасам, хоць памалу, а зьмяняецца, разьвіваючыся ў спрыяльным для нашага народу кірунку, і агульнае сусьветнае палажэньне. Бальшавізм, які быў і ёсьць найзьлейшым ворагам нашага й некаторых іншых, паняволеных ім народаў, усё больш і больш раскрывае свой запраўдны твар лютага ворага усіх воллюбных нацыяў, усяго чалавецтва. І ўсё больш і больш людзей пазнае гэты твар, а разам з тым і сярод усё шырэйшых колаў расьце ўсьведамленьне канечнасьці станоўкага бою з гэтым сусьветным ворагам — таго бою, у якім здабыў-бы сабе запраўдную волю й незалежнасьць і наш народ, Дык гэтак кажны крок такога антыбальшавіцкага самаўсьведамленьня людзей і народаў набліжае дасягненьне мэты й народу нашага.

Рада Беларускае Народнае Рэспублікі, якая абвесьціла яе незалежнай 25 сакавіка 1918 г., сама такасама не загінула ў хвалях гісторыі. Страціўшы шмат і шмат сваіх сяброў, адзін час, у моц абставінаў змушаная да захоўваньня свае істоты ў васобах блізу што толькі сваіх Прэзыдэнтаў — Крэчэўскага, Захаркі — яна пакрысе аджыла зноў апошнімі гадамі і зноў разбудоўвае штораз многалюднейшую і вытрывалейшую варту Ідэі 25 Сакавіка. Пільныя й нясупынныя крокі гэтае варты ў краёх выгнаньня, адважныя й мужныя крокі ейныя ў пушчах паняволенае Бацькаўшчыны — гэта цьвёрдая й нязломная хада народу да ягонае мэты, гэта поступ самой гісторыі, тэмп якога гэта ўжо добра відаць — узмацняецца й будзе ўзмацняцца шточасу, набліжаючы вялікую часіну поўнага ўжыцьцяўленьня народнага ідэалу, выказанага 25 Сакавіка 32 гады таму.

Гэтак, што год — бліжэй да мэты, што час, няўхільней перамога нашае праўды! **М. Цітовіч.**

## Прывітаньне Прэзыдэнта

**Дарагія Сёстры, Браты**
**Харобрыя Змагары,**
**цярплівыя мучанікі вязьніц, концлягераў,**
**шматпакуны Беларускі Народзе,**
**гаротныя Эмігранты!**

**Вітаю Вас усіх з 32-мі ўгодкамі прагалошаньня Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі і жадаю Вам усім сілы, гарту, вытрываласьці.**

**Ведаю як нязносна цяжка Вам гэтыя надлюдзкія цярпеньні!**

**32 гады зацятага змаганьня зь лютым ворагам за волю нанесла нам цяжкія крывавыя раны...**

**Раны гэтыя для нас моцна балючыя! Адны з нас цярпяць іхнюю боль фізычна, другія духова. Але як ня ёсьць цяжкімі гэтыя раны, для беларускага народу ў цэласьці, ня ёсьць яны сьмяротнымі... Беларускі народ, абдораны Вялікай Ласкай Боскіх Законаў, нязможнае нутраное сілы жывучасьці, пераканвае нас, што няшчасьце гэтае над сабой мы перэтрываем.**

**Дарагія Сёстры, Браты! Ня сотні і не дзясяткі ўжо год аддзяляюць нас ад мамэнту, калі нашыя мукі духовы, болі фізычныя зьменяцца на пяшчотна-кволыя пачуцьці радасьці — Вясельля.**

**Абходзім таму і гэтыя 32-я ўгодкі нашага вялікага Нацыянальнага Сьвята, як дзень нашае перамогі над бальшавічкай тыраніяй, бо і на гэты раз, хоць і на адзін год, але прыблізіліся мы да таго дня, калі яго будзем сьвяткаваць на сваіх вольных палетках, як вольныя грамадзяне!**

**Верце моцна, што Найвялікшы зь Вялікіх дзён крочыць нам насустрач шырокімі крокамі.**

**Дружнай грамадой, шчыльнымі радамі ідзем яму далей насустрач і мы!**

**Жыве Беларусь у змаганьні!**

**Жыве БНР.**

**Ньюь-Ерк** **Мікола Абрамчык**



**Першы габінэт Ураду** БНР (20. 2. 23, УІІ 1918 г.). Сядзяць зьлева направа: **А. Бурбіс** — маскоўскі консул, **І. Серада** — міністар гаспадаркі, **Я. Варонка** — прэм'ер-міністар і міністар замежных справаў, **В. Захарка** — міністар фінансаў; стаяць зьлева направа: **А. Смоліч** — міністар асьветы, **П. Крэчэўскі** — міністар дзяржаўнага кантролю, палк. **К. Езавітаў** — віцэ-прэм'ер і вайсковы міністар, **А. Аўсянік** — міністар нутраных справаў, **Л. Заяц** — дзяржаўны сакратар.

## Прэзыдэнт БНР у Чыкага

(Ад нашага спэцыяльнага карэспандэнта)

28-га студзеня 1950 г. беларуская калёнія ў Чыкага на чале з былым прэм'ерам першага Ураду БНР сп. Я. Варонка, былым міністрам Ураду БНР сп. Я. Чарапуком і палк. М. Дзямідавым спаткала ў Чыкага прыбыўшага сюды на запросіны беларусаў Сп. Прэзыдэнта БНР інж. М. Абрамчыка. Назаўтрае ў прысуетнасьці высокага гасьця адбылася нарада актыву чыкагскае калёніі беларусеў. На нарадзе абмяркоўваліся чарговыя заданьні беларускага вызвольнага руху. 30-га ўсе ўдзельнікі нарады былі запрошаныя на ўрачысты абед до сакратара Беларускае Нацыянальнае Рады штату Ільлінойс сп. Лабача.

5-га лютага а 9. 45 раніцы Сп. Прэзыдэнт праз чыкагскую радыёстанцыю „Вэдс", якая мае да 250.000 слухачоў — эмігрантаў з былое Расейскае імпэрыі, зьвярнуўся з прывітаньнем і заклікам да беларусаў ЗША. Прамова Сп. Прэзыдэнта сваім зьместам суровае крытыкі бальшавіцкае тыраніі ў Беларусі й патрыятычнага звароту да сваіх суродзічаў, што досыць часта знаходзяцца пад уплывам расейска-бальшавіцкае прапаганды, зьявілася запраўднаю бомбаю. З боку прамаскоўскіх элемэнтаў старое эміграцыі да дырэктара радыёстанцыі пасыпаліся пратэсты й пагрозы за »паклёпы на Савецкі Саюз і камуністычную партыю". Затое зь вялікай удзячнасьцю Сп. Прэзыдэнта віталі за ягоны выступ беларусы. Адзін старэнькі эмігрант з Кобрына, які прыехаў зь Беларусі 40 год таму назад, устаў хворы з ложка й зьявіўся да Сп. Прэзыдэнта.

Увечары таго-ж дня ў салі Ленарда ў чэсьць Сп. Прэзыдэнта чыкагскай калёніяй беларусаў было зладжана ўрачыстае прыняцьце-банкет. На прыняцьці прысутнічалі прадстаўнікі іншых паняволеных бальшавіцкай Масквой народаў. Шматлікія прамоўцы, вітаючы Сп. Прэзыдэнта, зычылі перамогі беларускага вызвольнага руху над маскоўска-бальшавіцкімі акупантамі Беларусі. Нават адзін зь лідэраў расейскіх работнікаў у Чыкага, які выпадкам трапіў на прыняцьце, у сваёй прамове заявіў:

»Сёньняшняя прамова Прэзыдэнта Абрамчыка ў радыё падымае аўтарытэт ня толькі беларускае калёніі ў Чыкага, але таксама й расейскае, якая ў вачох амэрыканцаў уважаецца найбольш скампрамітаванай сваёй сьляпой прывязанасьцю да бальшавізму. Дагэтуль яшчэ ніхто не адважваўся кінуць бальшавіком такое бомбы. І таму гэты такі сьмелы выступ Сп. Прэзыдэнта бясумліву моцна падкуражыць і ўзварухне да антыбальшавіцкае працы ня толькі беларусаў, але й расейцаў і іншых".

Навязваючы да цытаванае прамовы расейскага прадстаўніка, зусім ня дзіўна, што расейская прабальшавіцкая прэса ў ЗША ўзьняла люты вой супроць выступленьня Сп. ПрэзыдІнта. Гэтак нью-ёрскі **„Русскій Голос"** у сваім нумары ад 14-га лютага 1950 г. за ананімнымі подпісамі »П. І." і **»Русскіе амерікан-цы, Арго, Іллінойс"** зьмясьціў аж два пратэстуючыя артыкулы („Ді-Пі зторгаются в русскій радіочас" і »Мы протестуем"). У гэтых артыкулах найміты Крамля паводля інструкцыяў сваіх маскоўскіх хлебадаўцаў пішуць:

»Ен пачаў сваю прамову з таго, што Беларусь нібы знаходзілася пад няволяю розных дзяржаў, а цяпер знаходзіцца пад няволяю камуністых... Крыўдна было слухац, як гэты »ды-півец" няславіў край і людзей, што выратавалі чалавецтва ад дзікага нацызму... Савецкі народ бараніў свой край, свой палітычны лад, як ніхто ніколі не бараніў свае бацькаўшчыны... Там, у Беларусі, без яго й яму падобных, маладое пакаленьне даволі добра збудавала сваё жыцьцё..."

Вось чаму »русскім амеріканцам" не спадабалася „выступленьне ворага з „ды-пі", які асьмеліўся паклёпнічаць на наш вялікі народ", „супроць Савецкага Саюзу й усяго прагрэсыўнага". Гэтыя артыкулы-пратэсты аж занадта гавораць самі за сябе, каб дадаваць да іх камэнтары.

Мы толькі зьдзіўленыя, чаму гэтыя „савецкія патрыёты" сядзяць далэтуль у „капіталістычнай Амэрыцы", а ня едуць у „маскоўскі сацыялістыйны рай", дзе „маладое пакаленьне даволі добра збудавала сваё жыцьцё".

